# ПАГОНЯ

Адрэс рэдакцыі і канторы:
Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а.
Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень ад 1—2 гадз.
Кантора адчынена што дзень ад 8—3 гадз.

ГРАМАДЗКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВЫХОДЗІЦЬ ЧАСОВА РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

Падпіска каштуе:
на 10 № № ўпярод — 10 зал.
„ 5 „ „ — 5 „
Кошт асобнага № — 1 „

Рукапісы
не прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачываюцца па погляду Рэдакцыі.



№ 5. | Коўна, Чацьверг, 26 жніўня 1920 году. | Год І-шы.

## Кароткі нарыс старага Літоўскага статуту.

Стары Літоўскі Статут (зборка законаў цывільных і крымінальных) дайшоў да нашых часоў толькі у 3-м выданьню ад 1588 году.

Гэта выданьню выйшла апасьля няшчаснай Люблінскай уніі (1569 г.) звязаўшай моцна Літву з Польшчай і загубіўшай Літоўскую Дзяржаўнасьць. Ня дзіўна, што і на 3-ці Літоўскі Статут Люблінская унія налажыла цяжкую сваю руку,— трэба было ўжо згадзіць Літоўскія законы з законамі Польшчы. Дзеля гэтага арганізавана была ў 1569 гаду асобная камісыя з 11 выбарных членоў Сойму і паветовых соймікаў.

Камісыя гэта дасьледавала і разгледзіла Стары Статут, зложыла яго занова згодна з законамі Польшчы і перадала ў другую камісыю для згаджэньня яшчэ з новым уставам вышэйшага суду. І толькі тады гэты новы статут перэданы быў на Варшаўскі Сойм і зацьверджаны быў каралем Сыгізмундам III у 1588 гаду.

Статут 3-й рэдакцыі дзеліцца на 14 разьдзелаў, разьдзел—на артыкулы, артыкулы на стацьці; ён цяперь ёсьць адзінец, друкаваны ад старага Літоўскага законадаўства, бо ранейшыя два статуты (1-шы і 2-гі) да нас ня дайшлі.

Першы ці Стары Статут быў першай кодыфікацыяй („свод“ ці зборка) Літоўскіх законаў і называўся спачатку „Кнігі праў пісаных“, „Права паспалітага ўсей зямлі“, „Статут Земскі“, а пазьней называлі яго „Літоўскі Статут 1-й рэдакцыі“, ці „Літоўскі Статут Сыгізмунда І-га“. Гэты першы ці Стары Статут быў кодыфікаваны Камісыяй з духоўных і цывільных юрыстаў, ухвалены Віленскім Соймам, зацьверджаны Сыгізмундам І і абнародаваны ў 1529 гаду для карыстаньня у судах на ўсім абшару вялікага княства Літоўскага, у тым ліку і на Беларусі. Дзяліўся ён на 13 разьдзелаў і на 262 артыкулы і на працягу XVI в. яшчэ даданы быў два разы.

У 1566 гаду за Караля Сыгізмунда-Аўгуста складаны быў другі статут, каторы назваецца Валынскі, бо быў ён абавязуючым для Валыні, Падольля і Кіеўшчыны; распадаўся ён на 14 разьдзелаў і на звыш, як 500 артыкулаў.

Вось які кароткі агляд старых Літоўскіх Статутаў 1-га, 2-га і 3-га выданьняў.

Цікава адмеціць, што як складалі ў Маскве „Саборнае Улажэньне цара Алексея Міхайлавіча 1649 года“, то карысталіся Літоўскім Статутам (1-м ці старым) і ўзялі з яго 56 артыкулаў, як запісана на самім Уложэньні, але такія сьвядомыя прафэсары рускага права, як Леантовіч, Уладзімірскі-Буданоў, Паўлоў, Мрочэк-Драздоўскі, Піліпаў і іншыя гаворуць, што для Улажэньня загарнуты з Літоўскага Статуту да 175 артыкулаў. І то ня дзіўна, бо самы Літоўскі Статут меў галоўнай крыніцай даўнейшы (XI сталецьця) кодэкс „Праўду Роськую (сьпісак акадэм), ці „Праўду Русьскую“—„Суд Ярославль Володимѣричь“(сьпісакТроіцкі),—гэты кодэкс складаны быў ў XI ст. вялікім князем Кіеўскім Яраславам Уладзіміравічам дзела ўсей таго часу Русі, ў тым ліку і для Беларусі ці тое для Полацкай, Вітэбскай, Смаленскай зямель. Так захавана есьць да гэтага часу „Мсьціслава Праўда“ (зговар Смаленскага князя Мсьціслава 1229 году з Рыгаю, Готландам і нямецкімі местамі); яна ўся складана была па „Русьскай Праўдзе“ Яраслава. Прафэсары Леантовіч, Піліпаў і інш. гаваруць, што „Літоўскі Статут быў, па істоце сваей, зборкай дрэўняга рускага абычнага права“ каторае праз Беларусь, быўшую ўжо з 13-га ст. ў складзе Літоўскай Дзяржавы, перайшло на Літву.

Апрочь „Русьскай Праўды Яраслава“ крыніцамі для Літоўскага Статуту былі законы, выданыя да 1569 гаду літоўскімі князямі, ці тое: уставы, ухвалы, прывілеі і інш., меней болей ўзятыя з рускага, рымскага, нямецкага (магдыбургскага), польскага права.

Належыць ўзяц на ўвагу, што як І-ы Стары Літоўскі Статут 1529 г., так і другі 1566 г. і трэці 1588 г. пісаны беларускай мовай славянскімі літэрамі. Дапрыкладу: Літоўскі Статут, разьдзел XI, артыкул 7 літэральна: „Уставуем, когды бы сын, або дочка отца, матку або сваю умысльне забіл, смертью ганебною мает каран быті: по рынку возячы клещамі тело торгаті а потом в мех скораный всадивші в него пса, куря, котку і тое все посполу в мех всадівші изшить і где наглубей до воды спустіті“

Належыць ўзяць на ўвагу і то яшчэ, што ўрадавы і судовы дзелаводзтва на Літве да 1640 году вяліся беларускай мовай. Ад 1640 году пачалі пісаць ў урадах і судах ужо і па польску, асобна у вышэйшых судах і урадах. Ад 1697 году вышэйшы урад польскі забараніў на Літве літоўскую і беларускую мову ў урадах і судах і загадаў карыстацца толькі мовай польскаю.

Гісторыя, гаворуць, ёсьць вучыцелька народаў, але гэту вучыцельку трэба добра слухаць і разумець, каб ня рабіць амылак.

Люблінская унія (1569 г.) загубіла Літоўскую Дзяржаўнасьць і тым самыы загубіла Беларусь. Нехай-жа ня зьвяртаюцца горшыя часы Ягеллы і Люблінскай уніі! Адзін пачаў, а другая дарэшты загубіла.

К.

◆◆◆◆◆◆

## Дэклярацыя
### Старшыні міністроу Д-ра ГРЫНЮСЯ,
(Працяг).

Абавязкова патрэбна стварыць атмасфэру прадукцыйнай працы, вазвысіць веру людзей у свае сілы і даць як найбольш магчымасьці праяўленьня ініцыяцівы.

Адпаведна нармованая і кіраваная дробная зямельная ўласьнасьць найлепш адпаведае гэтай мэце; мае яна стварыць край вольнай прадукцыйнай працы. Ўжо перад вайной, гэтым шляхам, г. зн. шляхам раздрабленьня вялікіх гаспадарстваў падзьвігалася разьвіцьце земляробства. Заданьням-ж нашых дзён ёсьць з усей энэргіей узяцца за справу надзеленьня зямлей беззямельных і малазямельных, якія патрафяць і хочуць працаваць на зямлі. Прад Установчым Соймам стаіць надта важнае заданьня прыгатавацца правясьці гэты закон. Увядзеньнем у жыцьцё гэтай рэформы ачывіста здаволіваюцца патрэбы рацыянальнай зямельнай гаспадаркі, бо ўпаўне могуць стварыцца такія гаспадарчыя адзінкі, якія незалежна маглі-б развівацца і цьвісьці. Належэ унармаваць справу раздрабленьня гаспадарстваў, закрэпляючы адпаведныя граніцы. Дзяржава клапоціцца не аб тым, каб стварыць сотні тысячаў новых беднякоў, якія-б цярпелі ад недастатку на сваіх палетках, а аб тым, каб усе тыя, хто ня чураецца працы, мелі забязпечаны памысны парог жыцьця і людзскага утрыманьня.

Дзеля таго-ж пры правядзеньні гэтай рэформы, як ужо вышэй адзначена, ня можэ быць забыта справа узвышэньня зямельнай гаспадаркі і галін прамыслу, бэзпасрэдня злучаных з земляробствам. Павінны быць знайдзены эканамічныя сьродкі тэхнічнага паляпшэньня зямельнай гаспадаркі, стан якой павінен быць найбольш інтэнсыўны.

Бяз гэтага, г. з. бяз гэтай інтэнсыўнасьці зямельнага гаспадарства, па ўплыве пэўнага часу, ўзноў маглі-б знайсьціся бэззямельныя і тагды-б палажэньне было-б яшчэ труднейшае, бо не знайшлося-б вялікіх гаспадарстваў на мэты парцэляцыйныя

Знайдзены тагды спосаб шырокага і скорага узвышэньня зямельнай гаспадаркі есьць ў той самай ступені важным пытаньнем, як і рэформа аграрная. Трэба, як кажуць, каб два зярня расьлі там, дзе цяперь расьце адно; абшар зямлі аграпічаны і ня можна яго па свайму аднаму жаданьню павялічыць калі не далучыць да гэтага асушку балотаў і іншых таму падобных меліорацыяў. Мажлівасьць узвышэньня інтэнсыўнасьці ёсьць вялікая і рацыянальна злажэная з патрэбамі узвышэньня земляробства аграрная рэформа. Яна можа адторкнуць нам шлях да праўдзівага і моцнага эканамічнага поступу Для гэтага патрэба, каб наш селянін і ўмеў і мог належна вясьці сваю гаспадарку. Трэба, каб ён азнаёміўся з рацыянальнымі мэтадамі інтэнсыўнай гаспадаркі і навучыўся да іх застасовывацца. Гэтакім спосабам маем тут чыннасьць да пашырэньня вядомак у вобласьці гаспадаркі пры пасрэдстві школ, курсаў і іншымі шляхамі. Ала мале, каб наш селянін умеў наляжыта вясьці гаспадарку. Трэба, каб ён меў мажлівасьць добра вясьці гаспадарку і каб яна прынасіла яму карысьць. Тут усходзіць патрэба запэўненьня яму на адпаведных варунках мажлівасьці набыць тоя, што есьць патребна дзеля яго гаспадаркі, г. з. земляробных машын і спронтаў, мінэральных удобрэньняў, палепшаных гатункаў насён, расовы адмен быдла і г. д.

Далей заходзіць пытаньня: ў які спосаб гаспадарства на даступных варунках маглр-б атрымаць матэрыялы будауляныя. Гэга датычывае ня толькі важнага у гэтай хвілі пытаньня аб лясным матэрыяле, але і інш., як цэглы, каменьня, вапны і г. д. і адначасна паустае пытаньне адбудоулі гаспадарскіх будынкаў. Усе гэта датычэ агульнага заданьня —адбудовы гаспадаркі ў Літве.

У зьвязку з вышэй парушаным пытаньнем ёсьць справа забязпечэньня будынкаў ад агню.

Не затрымываючыся доўга, успомнім яшчэ аб некалькіх важных заданьнях зямельнай гаспадаркі, як напрыклад узвышэньня каапэратываў, важнасьць даступнага дзяшовага крэдыту, патрэбы мэліорацыі і г. д. Гаворучы аб патрэбах земляробства належэ заувaжыць, што ў зьвязку з яго узвышэньнем у нашым краю павінны-б разьвіцца тыя галіны прамыслу, якія перэрабляюць дабытыя земляробствам сыроўцы. Тут гаварыцца аб млынах, алеярнях, фабрыках кансэрваў, прамыслу льняным: для цэлага сьцягу галін прамыслу ў Літве могуць стварыцца надта шырокія пэрспэктывы. Таксама гэты расквіт прамыслу даўбы мажлівасьць далейшаму узвышэньню і расквіту чыстага земляробства, гварантуючы працу тым, хто не знайшоў яе ў гаспадарстве земляробчым. Ачывіста ня ёсьць гэта патрэба аднаго дню, але разважаючы патрэбы дню мы не павінны спусьціць з вочау і далейшай пэрспэктывы. У канцы некаторыя богацьця, як напрыклад: лясы аткрытыя воды, вялікія тарфянікі і балоты, як агульнае дабро цэлага краю, ужо у бліжэйшай будучыне павінны-б быць удзяржаўлены, бяручы пад увагу інтэрэсы дзяржавы і народу, як гэта предугледжываецца у разуважаньню Установчым Соймам адпаведнага уставу.

Подраховываючы усе, што вышэй было сказана, належэ яшчэ раз падкрэсьліць, што рэформа аграрная і патрэбы рацыянальнага земляробства павінны быць арганічна з сабой згармонізованы і на гэта згарманізаваньня Урад павінен зьвярнуць як найбольшую увагу; большасьць закранутых пытаньняў ўжо заініцыявана часовым Урадам і з меншай чы большай усьпешнасьцю выканана. Заданьнем цяперашняга Ураду будзе пашыраць далей і палепшываць жывыя і пасьпеўшыя пытаньня аграрнай рэформы і земляробства, вяжучы арганічна адно з другім і апіраючыся у сваей працы на выданых Установчым Соймам уставах і, ў разе патрэбы, носючы ў Сойм плянаваныя проэкты уставаў.

[Прaцяг. будзе.]

